Беларуская газэта
Naša Niva

# НАША НІВА

№7
1992

**Чацьвертая нацыя...**
*Гутарка з Л.Луцкевічам.* с.14

**Не пакідайце ж мовы нашай, французскай!..** с. 10

**А.СЫС**
*Вершы* с.5

**Ш.АНДЭРСАН**
*амэрыканская навэля* с.13

**Асабістыя рэчы К.Каліноўскага**
*Ня толькі ідэалы застаюцца пасьля герояў...* с. 2

**ГАРАСКОП БЕЛАРУСІ** с.12

Усе добра Усе занадта добра, каб не прыходзілі думкі пра сьмерць Настау час, калі зусім не адчуваецца будучыня, калі мінуўшчына гатовая шчыра адказаць на любое самае таемнае пытаньне, калі цяпершчына аж ільсьніцца ад таго, што усё так добра Чым заслужаны гэты посьпех? Адчуваньне таго, што ён незаслужаны, — гэта апошні ўсхліп інстынкту самазахаваньня Усе настолькі добра, што гэты інстынкт гатовы канчаткова заглохнуць Так добра можа быць толькі перад канцом сьвету



Здымак Алены Адамчык

# КАРОТКІ КУРС ГІСТОРЫІ ГЛУПСТВА

ДРАБНІЦЫ

Алег Аблажэи



** Што больш зьмяняе навакольны сьвет — розум ці глупства?*
** Дзяржаўнасьць беларускаи мовы — я крылы ў куры нібыта й ёсьць, ды не узьляціш высока..*
** Брунатны. пушка.. варункі. стасункі... пігулкі... мажліва... філіжанка бракуе Пся крэў! Выстарчыць!*
** "Польскасьць" віленскіх палякаў — як месца, памазанае зялёнкай яна ўелася ў скуру й ня змыеш, але, калі не аднаўляць, сыхдзіць сама па сабе...*
** Каб быць немцам ці французам, дастаткова ім нарадзіцца, каб быць беларусам, трэба ім стаць*
** Горад адрозьніваецца ад мурашніка тым, што там — усе свае, а ў горадзе — усе чужыя*
** Ці можа быць добры чалавек, які упэунены, што ен — добры?*
** Каханьне — самы гуманны від эгаізму*
** Узрост: яшчэ не разумны, але ўжо не малады*
** У размовах са знакамітасьцямі ня трэба баяцца, што выдасі сьцпласьць свайго інтэлекту — яны слухаюць толькі сябе!*
** Для спартоўцаў характэрны мускульна-кішэчны выраз твару*
** У барацьбе за вызваленьне чалавецтва найбольш цяжка змагацца з самімі вызваляльнікамі.*
** Калі больш баліць — калі пра цябе кажуць балючую няпраўду, ці калі — балючую праўду?*
** Цынізм — гэта рамантызм на пэньсіі*
** Страшны суд не наперадзе нас. Ен ужо адбыўся. І кожны асуджаны на свой лёс*
** Ці ёсьць хоць што-небудзь там, дзе нічога няма?!.*
** У цягніках часам здаецца, што праваднічам тоўстыя жываты выдаюцца разам з уніформай...*
** Сьціпласьць упрыгожвае чалавека Асабліва сьціплая адзежына з валютнае крамы*
** Малюнак каштоўны ня тым часам, што затрачаны на ягонае выкананьне, а тым, на працягу якога хочацца яго разглядаць*
** Талент — як чупрына; або яна ёсьць, або яе няма — а парык ужо зусім іншая справа.*
** Самапрыніжэньне — срытая патрэбнасьць у пахвальбе*
** Важна ня тое, колькі ты ўкладваў у свой твор, а колькі зьмясьцілася*
** У наш час немагчыма стварыць такое мастацтва, якое б не садабалася нікому Нават, калі ня будзеш рабіць нічога, знойдуцца тыя, хто скажа А ў гэтым нешта ёсьць!*
** Пачатак кар'еры мастака ці паэта — калі ў галаве больш, чым у кашальку.*
** Настае пара, калі модна быць нямодным.*
** Што можа быць больш гідкае за афіцыйны рамантызм!*
** Эпігонскія працы выклікаюць такі эфэкт — як бы йдзеш па вуліцы й раптам бачыш дарагога табе сябра, цешысься ад сустрэчы, падбягаеш... а гэта зусім іншы чалавек, хоць і падобны І чым большае падабенства — тым большае расчараваньне*
** Мастак у такім жа даўгу перад народам, як і народ — перад мастаком*
** Нішто так ня скоўвае фантазію, як поўная свабода!*
** Авангард — гэта дыктатура мастацкага пралетарыяту*
** Маркс падобны да амялы — і зьнешне, і па сутнасьці*
** Рэалізм — досыць цьмянае паняцьце, бо нават Грунвальд Матэйкі мае ня большыя адносіны да рэальнасьці, чым працы Каньдзінскага...*
** Дзьве вяршыні авангарду і камунізму — экскрэмэнты мастака, выстаўленыя аўтарам у галерэі Тэйт, і труп у шкляной скрыні, выстаўлены ў маўзалеі.*
** Які цікавы й багаты быў бы Музэй Глупства!*
** Я — гэта я! Усяго толькі я...*
** Чытаць кнігі афарызмаў — усё роўна што есьці дрожджы лыжкаю*
** Я ўчарашне-заўтрашні чалавек!*

зразумець псыхалёгію тутэйшага народу ўсіх нацыянальнасьцяў (за выключэньнем самых літоўцаў). Усе ж яны былі, як правіла, альбо руска-, альбо польска-, альбо беларускамоўныя. Ага, далучэньне да Беларусі, значыць, да Беларусі. І ўсё. Для іх праблемы не было. Існаваньне ў складзе Беларусі ўспрымалася... ну, не такі рэзкі пералом, як прыход улады з зусім чужой і абсалютна незразумелай для больш чым 90% насельніцтва Вільні мовай. Гэтая ж мова тут была невядомая. Асабіста я ня з вуліцы, не зь літоўскага асяродзьдзя, а ад бацькі пачуў два першыя літоўскія словы. Калі брат мой Юрка пачынаў дурэць, бацька яго называў Юргіс дурняліс... Зразумейце, ня з вуліцы, не зь літоўскага асяродзьдзя... Бо не было, не было дзе чуць гэтую мову.

***А як тое, што Вы кажаце, спалучыцьз ранейшымі словамі, маўляў, гэта зямля двух народаў...***

— Што тычыцца краю, дык этнічная прысутнасьць у навакольлі Вільні заўсёды пераважала беларуская. Я думаю, што літоўскія дасьледчыкі таксама маюць рацыю, калі кажуць, што нават у XIX ст. яшчэ йшоў працэс перасоўваньня моўнай граніцы з поўдня на поўнач на карысьць беларускай мовы, прычым незалежна ад уплываў кіраўнічае ўлады. Гэта нейкая дыфузія, растварэньне літоўскіх вёсак, якія спачатку паўвыспамі ўваходзілі вельмі глыбака, значна глыбей, чым сёньня у беларускую тэрыторыю, потым яны звужаліся, потым абразаліся й твварыліся астраўкі, і адсюль гэтыя астраўкі беларускія на Літве и літоўскія на Беларусі. Некалі мне давялося ў Троцкім раёне працаваць на электрыфікацыі калгасаў, і ў вадной сям'і, дзе я быў на кватэры (каталіцкая сям'я, сялянская, яны лічылі сябе тутэйшымі палякамі, хоць пастушкі на полі ўсюды сьпявалі беларускія песьні, гутарылі й лаяліся па-беларуску), бабуля ў хаце, калі я прыходзіў туды разам са сваёй брыгадай (дзе былі ўсе літоўцы, акрамя мяне аднаго брыгадзіра; яны між сабой гаварылі па літоўску), бабулька казала: а я яшчэ разумею па-літоўску, я ўсё разумею, што вы гаворыце . Гэта на пагранічны, Сімілішкі, калгас імя Касьцюшкі, дзе вельмі разнародны этнічны склад. Так што безумоўны этнічны ўплыў існаваў. Гэта прасочваецца и па прозьвішчах. Помню, у першай ці ў другой клясе Віленскай беларускай гімназіі быў беларускі хлапчына. Прозьвішча яго Кетурка Дык ён жа ня ведаў, што ён літовец, але прозьвішча гаварыла за гэта. І працэс зьбеларушчваньня ішоў якраз на ўзроўні сельскіх мясцовасьцяў, якія граничылі. Пэўная перавага была таму, што наша мова была больш блізкая да славянскіх дзяржаўных моваў. Дзяржаўнай мовы балцкай ніколі тут не было. Гэта таксама мела адмоўны ўплыў на фармаваньне іх нацыянальнай сьвядомасьці, але яны здолелі гэта перамагчы. Вось у чым заслуга літоўскага адраджэньня, што яны здолелі ўсе гэтыя цяжкасьці пераадолець, стварыць і сваю буржуазію, і сваю тэхнічную і сваю гуманітарную інтэлігенцыю

***— Ці адбывалася такая «дыфузія» на ўзроўні гораду?***

— Бачыце нацыянальная ці хутчэй моўная структура гораду — вельмі зьменлівая. І таму я думаю трэба гэты стан гораду крыху абстрагаваць ад нацыянальнае самасьвядомасьці. А што сапраўды колькасна іх тутака было вельмі мала, дык гэта ж прызнаюць усе статыстыкі.

***— Але статыстыкі й нас прызнаюць вельмі мала***

— Так, зусім слушна. Таму што мы ў той час таксама былі яшчэ праслойкай прыбыўшых у горад зь вёскі. Напачатку гэтага стагодзьдзя беларусы й літоўцы былі мужыцкімі нацыямі. Настолькі маленькі працэнт быў сваёй нацыянальнай інтэлігенцыі, яна толькі нараджалася.

***— Якая была рэакцыя беларускага асяродзьдзя на далучэньне Вільні да Летувы?***

— Што ўяўлялася мне, як яшчэ вельмі недасьведчанаму юнаку? Гэта было настолькі вялікае зьдзіўленьне!.. Між іншым, ня ведаю, зь якіх крыніц, але перад самым арыштам бацька ўжо недзе "пранюхаў" і сказаў: яшчэ ня выключана такая магчымасьць, што Вільня трапіць у склад Літвы. Гэта было ў кастрычніку. І потым мы ўсе былі так зьдзіўленыя, калі ягоныя словы ўжо пасьля арышту спраўдзіліся. Мы проста не маглі зразумець, ці гэта палітычная дальнавіднасьць, ці інфармацыя аднекуль.

***— Што Бы думаеце пра нацыянальную будучыню Вільні? Зразумела, што ёсьць тое, што ёсьць. Але, скажам так, як бы Вам хацелася?***

— Хацелася б зьмякчыць міжнацыянальную напружанасьць, таму што ў карысьць якой бы нацыі яна ні йшла, яна заўсёды будзе выклікаць варожасьць з боку ўсіх трох. Я маю на ўвазе: польскую стыхію, расейскую беларускую й літоўскую — гэты чатырох кутнік мусіць сёньня неяк прыціраціа, каб не ствараць напружанасьці. Бо заўсёды тут так выходзіць. Літоўцы адбіваюцца ад уплываў трох нацыянальнасьцяў: польскай, расейскай і цяпер — зноў — беларускай (таму што адраджэньне беларускасьці на Беларусі стварае як бы дадатковую нагрузку пры гэтым ціску). Палякі, тыя, што прытрымліваюцца рэваншысцкіх поглядаў (граніц 39-га году), адчуваюць, што супраць будуць літоўцы, расейцы беларусы. Расейцы-вялікадзяржаўнікі... паколькі гэта быў Савецкі Саюз, значыць, Савецкая Расея, значыць, Расея, значыць, усе гэтыя — іншародцы, прыдуманыя нацыі, якія не павінны йснаваць. Так вось і атрымліваецца што ў кожнага прэтэнзіі да ўсіх трох.

***— А беларусаў Вы не назвалі***

— А беларусаў я называю і зь вялікім сумам мушу сьцьвердзіць, што нам таксама прыходзіцца адчуваць націск з трох бакоў. Нам асабліва, таму што націск пануючай нацыі мы заўсёды адчувалі ці то расейскі, ці то польскі. А цяпер прыціскае и літоўскасьць, асабліва таму, што сярод маладзейшага пакаленьня літоўцаў наагул няма разуменьня права беларускай нацыі на йснаваньне. Літоўцам, выхаваным у савецкай школе, мабыць, хацелася б, каб Беларусь перастала йснаваць як нацыя, таму што беларусы, дзякуючы свайму памежнаму становішчу таксама пэўны націск на Літву рабілі.

***— Як прэтэндэнты?***

— Як прэтэндэнты. Тым больш улічваючы супольную гісторыю. Гэта, можа, нават інтуіцыйна неяк, нават падсьвядома ўспрымалася ну што, прападзе Беларусь як нацыя, а што нам плакаць? Зьявіўся нейкі нацыянальны эгаізм У той час, калі быў адзін супольны вораг, быў ня тое што альтруізм, але была супольнасьць інтарэсаў заўсёды ўсіх трох нацый супраць чацьвертай, якая на сёньняшні дзень панавала. Вільня увесь час фармавалася у такіх умовах

***— Які можа быць на будучыню лепшы варыянт разьвіцьця падзей?***

— Я думаю, што перш за ўсё, мабыць, — ня трэба чапаць граніц. Але трэба стварыць такія варункі пры поўным дзяржаўным сувэрэнітэце усіх ужо сфармаваных народаў, каб між гэтымі сувэрэннымі дзяржавамі граніцы былі неадчувальныя. Павінна быць як найбольш цесная эканамічная й культурная, пабытовая сувязь. Усялякае абмежаваньне перасоўваньня праз граніцу — гэта, мне здаецца абмежаваньне правоў чалавека. І гэты варыянт для Віленшчыны вельмі важны. Вядома, будзе адбывацца пэўная этнічная дыфузія, можа быць, нават у некаторых вёсках узмоцніцца літоўскі ўплыў, а ў некаторых, дзе пераважаюць беларусы, узмоцніцца ўплыў беларускі. У тых жа Салечніках.

***— Цяпер на мяжы поўным ходам ідзе ўзьвядзеньне "заслоны" з абедзьвюх бакоў Мабыць, хутка зьявяцца ўзараныя палосы.***

— Так, гэта вельмі сумная зьява Але мне здаецца, што гэта ўсё ж -такі будзе пераходным этапам Калі ўпарадкуюцца эканамічныя адносіны, дык, напэўна, на ўзроўні Эўропы ня будуць патрэбныя гэтыя палосы. Граніца застанецца як дзяленьне чыста адміністрацыйнае, таму што недзе ж павінна канчацца адна ўлада, пачынацца другая, гэтаксама як паміж раёнамі, абласьцямі й г.д. Мы, памятаю, у ранейшыя часы часта на сваім старэнькім масквічыку, як яго называлі — бобіку, езьдзілі зь Вільні пад Менск. І заўсёды, калі пераяжджалі мяжу, то з добрай дарога рабілася адразу поўная выбаін, а мы крычалі: ура! мы пераехалі граніцу! Вось такое адчуваньне граніцы й павінна быць. Толькі дай Бог, каб дарога на сваёй якасьці зь двух бакоў была аднолькава добрая.

С Д

***P.S. Калі так яно й будзе, калі бацькаўшчына не акажацца за новай каменнай сьцяной, беларусы Віленшчыны ня будуць адчуваць сябе загнанымі ў кут эмігрантамі на зямлі сваіх продкаў, нацменамі з адпаведным наборам комплексаў непаўнавартасьці, ЧАЦЬВЕРТЫМІ. Сама гэтая лічба будзе азначаць ня больш, чым увогуле азначаюць лічбы. І тое, што мы чацьвертыя ў Вільні, будзе хваляваць нас ня больш, чым тое, напрыклад, што мы дванаццатыя ў Эўропе ці пяцідзесятыя ў сьвеце..***




Здымак Алены Адамчык

# Зборка чысьціні беларускае мовы

Вяртаньне беларускага друку да колішняга правапісу ня сталася абвальным За тое некалькі выданьняў, якія перайшлі з наркомаўкі на тарашкевіцу, ужо сьцьвердзілі трываласьць свайго намеру и натуральнасьць старога, «няспрошчанага» правапісу ў новыя часы. Гэта *Свабода Бярозка*, *Наша Ніва*, пакуль часткова *Спадчына* На другім годзе выхаду гэтых пэрыёдыкаў пазначыліся пэўныя разыходжаньні ў выкарыстаньні тарашкевіцы. Правапіс, які быў забаронены ў БССР у 1933 г. вымагае ўдасканаленьня. Вось жа дзеля таго каб узгадніць пазыцыі, 14 чэрвеня ў памешканьні рэдакцыі *НН* у Вільні са браліся карыстальнікі тарашкевіцы на рабочую нараду, якую вырашылі лічыць першаи і традыцыйна называць «зборкай чысьціні беларускае мовы». У нарадзе ўзялі ўдзел апроч супрацоўнікау *НН* (Л Луцкевіч, С Шупа, А.Мінкін, С.Дубавец ды іншыя), М.Клімковіч зь *Бярозкі* ды Вінцук Вячорка са *Спадчыны*

## ПАПРАЎКА

**У мінулым нумары нашае газэты па тэхнічных прычынах адбылася прыкрая дэфармацыя тэксту эсэ Чэслава Мілаша «Старыя спрэчкі пра анклаў». З гэтае прычыны мы прыносім свае прабачэньні чытачам і ўзнаўляем дэфармаваны ўрывак (на стар 7) у поўным выглядзе:**

**«Зрэшты, той самай воляй прадыктавана вынаходніцтва назвы Vilnius, хоць места ніколі не называлася так У даўніх кроніках называецца Вільна альбо Вільня, ад ракі Вільны Яшчэ Тарыба ўжывала назву Wilno».**

*Рэдакцыя*

